
FABLES
VERTIGO
issue 37
2.50 can 3.50
SUGGESTED FOR MATURE READERS
vertigocomics.com
July 05
WILLINGHAM
BUCKINGHAM
LEIALOHA
JJ05
COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
Паданні
№37 (2002)
пераклад:
Артур Барадачоў
афармленне:
Сяргей Козыраў
Вяртанне ў Родныя землі. Частка 2: Сіндром св. Георгія
Арыентавана на дарослых чытачоў

У чорнай сырой пячоры ў далёкім свеце.
Які **смачны** кавалачак зазірнуў да мяне, якраз **да абеду**.
Я **не за гэтым** прыйшоў.
Праўду кажучы, стары чарвяк, я вельмі разлічваў на тое, што ты ўжо даўно **здохнуў**.
The Saint George Syndrome
Chapter Two of HOMELANDS
Bill Willingham: writer-creator
Mark Buckingham: penciller
Steve Leialoha: inker
Daniel Vozzo: colors
Todd Klein: letters
James Jean: cover art
Mariah Huehner: assist. editor
Shelly Bond: editor
CONVERSION BY WILDSTORM

На тваё няшчасце я **яшчэ** жывы, і полымя маё **спапяляльна** як і раней.
Шкада. Хоць я і прагны да славы, але змагацца супраць цмокаў **аніколі не імкнуўся**.
Мабыць, усё ж **пакажаш** праход у наступны свет?
Толькі спачатку я **падсмажу** цябе трошкі.
Не атрымаецца. Чарадзей-ны плашч **не гарыць** і ён не дазволіць **мне** апячыся.
**Пакуль** ён на мне.
Нават **цмоку** мяне не апаліць.


У ім **шмат** чаго ёсць: паходні, абезгалоўленыя лялькі і **вострыя мячы**.
Гатовы **скончыць** гэта?
**Так**, дурненькі, **скончым** гэта!
**Вой!**
Ты згубіў сваю чарадзейную **іголку**, хлопец.
А твой **плашч** цяпер у мяне.
Добра, **не так** я сабе ўсё гэта ўяўляў.
Але калі ўжо назваў сябе **героем** - пачынай **імправізаваць**.
Мяне так вучылі.

Не чакаў **гэтага**, а? Ён ня толькі не гарыць, але і **ня рвецца**.

**Ффуўмпф!**

Карацей кажучы, **гамон табе**, дружа.

Фя фефя фоффу!

Фыфаф?

Фффуфф!

Штосьці ты **распаўнеў** і **распаліўся**, сябра.

Топка ўнутры **напалілася**?

Прабач, гэта **няветліва**, але я, бадай што, **схаваюся**.


WHOOOOMF


Гэй?
Аднак падабаецца мне водар серы і попелу.


Воў.
Усё **золата** на падлозе сплавілася ў адзін узгоркаваты **дыван**.
Трэба будзе распавесці пра гэта Мухалову.


**Дык вось яно што**!
Вось чаму я **не мог знайсці** ўваход у пячору.
І чаму гэтым праходам **аніколі** не карысталіся.
Ён жа быў схаваны ўнутры **цябе**!
Разумна.


А Божухна.


Стрэпфідл!
Так, міністр?


Адпраў пасланца ў вядзьмарскую канцылярыю - да старшага сакратара Мадснайпа.
Хай перадасць, што я прыеду з **дрэннымі** навінамі. Мне неабходна неадкладная аўдыенцыя.


Слухаю, міністр. Вам падаць карэту?
Не, у гэты **час** дня я хутчэй дабяруся пешкі.


**Хутчэй!**
Слухаю, міністр!


Навіны сапраўды жудасныя.
MB + SL AFTER PIRANESI 1761


Мадлкок!
Што такога здарылася, што я павінен спыніць **абед** дзеля малодшага інспектара з міністэрства міжсусветнай лагістыкі?


У нас сур'ёзная **праблема**, спадар Мадснайп.
Чарговы грамадзянскі перавозчык атрымаў выгаду на ваенным заказе? І **як** гэта датычыцца міністэрства вядзьмарскіх спраў?


Жадаеш - заплаці яму колькі трэба, жадаеш - **павесь** яго над уваходам у ягоную ўласную краму, каб астатнім непанадна было. Ва ўсялякім выпадку нас гэта не датычыцца.
Не, справа датычыцца **бяспекі**.


Прагледзьце гэтыя справаздачы, звярніце **асаблівую** ўвагу на даты.
Спачатку, некалькі месяцаў таму, шэраг **інцыдэнтаў** у чацвёртай ардзе; выпадковыя ахвяры і іншае.


«У рэшце рэшт - **забойства** Чарнамора, губернатара Кардана; менавіта там чацвёртая і стаіць».







«Пасля гэтага забойца з'явіўся ў свеце, што клічуць **Руссю**. Туды можна трапіць са **Скольда**».

Так, адна з дарог вядзе ў патрэбнае месца, але **якая**?






Хто крадзецца па маім лесе нібы хітры злодзей?
Лічы, ты мяне ня бачыў, і ідзі сваім шляхам.
Сваім шляхам?
Ніхто не адважваецца вызначаць шлях мне, дню ясному, **беламу віцязю ранішняга світання**!
А без гэтага аніяк нельга?
Слухай, братка...
Я ўвогуле не жадаю забіваць цябе.


А ты напэўна **не жадаеш** паміраць.


Давай зробім вось як, сябрук мой бледны.
Ты рухай у той бок, а я пайду ў гэты, і ўявім, што мы **ня бачылі** адзін аднаго.


Пракляты!
Ды як ты **можаш**!


Сумленныя віцязі не б'юць чужых коней па дупе.
Пра сумленнасць ня ведаю, я проста жадаў, каб вы абодва ішлі сваім шляхам.



Белы вершнік не адступіць па загаду злодзея ў **масцы**.
Ды я зразумеў ужо.
Ай! **Балюча**!
Хоць і не парэзаў.




Я твой чэрап на кавалкі пасяку і кіну ў **бяздонны** кацёл Бабы-Ягі.
Пагатуешся там некалькі **тыдняў** - будзе ей пачастунак, як вернецца з чужых краёў.




Ты **ведаеш** Бабу-Ягу?
Маю гонар служыць ёй, я і два мае браты-волаты.




Вось гэта ты **дарэмна** сказаў.
Не жадаў цябе забіваць.
А зараз **жадаю**.




Свет цесны, а?
Бачыўся я з тваёй гаспадыняй. Меў з ёй вельмі доўгую, **непрыемную** гутарку.
Сюды яна больш ня вернецца, **нават** на наварысты суп.


Дабіць паганку мне не пашанцавала, але я бачыў, як ейны смуродны труп шпурнулі ў яму.
Гэта будзе табе навукай.
У наступным жыцці выбірай пільна, каму служыць і каго шанаваць.
SNICKER-SNACK!







Яна жывая, таму што калі б яна памерла, памерлі б і мы.

Маніш, сябар. Яна **выцягнула ногі**, сам бачыў.

Хаця...

Я бачыў цела, **шчыльна** захінутае ў саван.

Бозлі, ты зноў усіх **ашукаў**?




«Ня толькі яго. На той жа дарозе наш забойца сустрэўся і з двума ягонымі братамі».

Ведай жа, я **сонейка чырвонае**, віцязь паўдзённы.

Вось вы, хлопцы, усе **ўнадзіліся** рэкамендавацца перад боем.

Добра!

Мяне клічуць сінім грозным **мстіўцам**!

Я прыйшоў адпомсціць за тых, каго ты і твая гаспадыня забілі ў свой час, пакалечылі ці наўпросткі **пакрыўдзілі**.

**Прыемна пазнаёміцца!**


Я **ноч цёмная**, вершнік пад зоркамі.
Ды я ўжо зразумеў, улічваючы **чорнае на чорным**.


Слухай, расклад такі. Зараз будзе бітва, і я цябе заб'ю, як бледнага хлапчука і агнява-чырвонага таксама.
Я не выхваляюся. Гэта наўпросткі **немінуча**.


Вось толькі мабыць спачатку **пагутарым**?
Мне трэба зразумець, ці тую дарогу я выбраў.


Мне трэба трапіць у палац Івана-царэвіча. Праход у наступны свет знаходзіцца ў троннай зале, так?


Толькі мой меч будзе гутарыць з табой.
=уздых=
Я так і ведаў, але варта было **паспрабаваць**.




Тыя тры віцязі былі наймагутнымі волатамі на Русі. Распраўляліся з вялікімі **войскамі**.


А гэты **адзін** перамог усіх трох?
І здаецца, **без вялікіх намаганняў**.
Дзе ён зараз?


Мяркую, там жа. Русь - вялікі свет, падзелены на шэраг адміністрацыйных раёнаў, ня вельмі сяброўскіх.
На тое, каб дабрацца ад аднаго праходу да другога, нават нашаму **хлопцу** спатрэбіцца некалькі месяцаў.


Значыць час у нас ёсць.
А як ты, Мадлкок, сабраў гэтую справу разам са **шматлікіх** разрозненых справаздачаў?


Я адразу заўважыў тут **унутраную** логіку. Гэта і робіць мяне добрым інспектарам.
І да якіх вынікаў ты прыйшоў?


«Наш забойца валодае наймагутнымі чарадзейнымі рэчамі. А паколькі ўсе імперскія артэфакты зарэгістраваныя, напрошваецца вынік: гэтыя прыбылі **з-за мяжы** Імперыі».


Значыць, наш забойца - прыхадзень звонку.
Здаецца, што так. Але **адкуль**?
Складана сказаць. Незаваяваных тэрыто-рый яшчэ **даволі шмат**.


Мяркуючы па ўсім, ён пранікнуў у аддалены свет - у дадзеным выпадку Кардан - і паступова рухаецца ад аднаго да іншага.
З Кардана праз Скольд на Русь. У абход асноўным гандлёвым шляхам.


Цалкам відавочна: гэтымі патаемнымі сцежкамі ён імкнецца сюды, у Калабры-Ананы, нашую сталіцу. Але **навошта**?
Нават наймагутнаму чалавеку **не захапіць** яе самастойна, значыць ягоная мэта - **замах** на жыццё.


На Імператара?
Ты **меў рацыю**, што прыйшоў да мяне. Цяпер гэтым пытан-нем будзе займацца вядзьмарская гільдыя.


І досыць **марнець** сярод пісараў і рахункаводаў, Мадлкок.
Я дамагуся твайго перавода да нас - **зараз жа**. Ідзі збірай рэчы.

«Я палічыў неабходным паведаміць вам **асабіста**».

Так, мы на **слушным** шляху, вандроўнік.

У такім выпадку я прайдуся з вамі крыху.

«Нашыя агенты прачэсваюць Русь у пошуках чужынца».

«Рана ці позна мы яго знойдзем. Наўрад ён доўга зможа выдаваць сябе за мясцовага».

Варта сказаць, мне **цікава**, якія у вас планы наконт гэтага ката.

Мы плануем яго пахаваць.

Але ж ён **не** памерлы, а проста спіць. Вунь у яго грудзі ўздымаюцца.

Ён нават **буркатае**!

І ўсё ж планы ёсць планы.

А калі ён **прачнецца** па ходу справы?

Тады на яго могуць узнікнуць іншыя планы. **Так яно звычайна і здараецца**.




Куды ты, вандроўнік, накіроўваешся?
Збіраюся перасячы мора-акіян, як толькі **адпачну**.
**Зараз**, у такі час? Заставайся на ўзбярэжжы, тут і рыбкі ўдосталь, і адкідаў.


Так, **дачакайся** сезона пералётаў - будзе табе і кампанія.
Я вельмі **спяшаюся**. Мая мэта знаходзіцца на **тым беразе**.


Штосьці гэта зусім не па-птушынаму.
Мне трэба вярнуць **каханую** і пажаць плёны справядлівай **помсты**.
У такім выпадку ўсё зразумела.


А хто выкраў тваю каханую? Крумкач? **Іду ў заклад**, што крумкач. Крумкачы - вельмі **прыкрыя** стварэнні.
Гады ўсе да апошняга. Урэшце, дамачкі іх **каха-юць**. Цікава чаму?
Жанчынам **пада-баюцца** дрэнныя хлопцы. Заўсёды падабаліся.
Да пабачэння, спадары птушыныя. **Прыемна** было пазнаёміцца.




Але варта трымацца асцярогі.


Гэты чужынец перамог трох рускіх волатаў-паўбогаў, цмока са Скольда, тузін імператарскіх намеснікаў, мабыць і больш, - і **незлічоную** колькасць жаўнераў.
Ты так яго баішся?


Высокашаноўная спадарыня, я баюся **ўсіх**, хто можа пагражаць Імператару.
Пакуль я кірую ягонай вартай, яму нічога не пагражае.


Адклікай сваіх агентаў, Мадснайп. Ня трэба гуляць з ім у хованкі, калі ён ужо вырашыў наведаць **нас**.


Я **падрыхтую** яму ветлівы прыём.
Вы лічыце, гэта разумна? Толькі вядзьмар, які валодае **велізарнай** магутнасцю, здольны...

Магутнасць - гэта **слізкая** рэч, Мадснайп.

Мабыць у нашага візіцёра і ёсць **некалькі важкіх тузоў** у рукаве, але **мяне** ягонае геройства і фокусы пакуль зусім не ўражваюць.

Хай ён **таленавіты**, але хіба параўнуецца ён з тваёй любай Снежнай Каралевай?

***NEXT:*** THE ADVERSARY!

Далей: *Вораг!*